СПОРТ

# Коннік без галавы

## Гэта — беларускі спорт

Больш за два месяцы таму, напрыканцы траўня, адбылося пасяджэнне выканкама рэспубліканскай федэрацыі хакея, на якім была дадзена адмоўная адзнака правальнаму выступленню нацыянальнай зборнай краіны на чэмпіянаце свету ў Германіі.

Працяг размовы аб будучыні беларускага хакея вырашылі адкласці на канец ліпеня, калі павінна была прайсці чарговая канферэнцыя. Адным з галоўных пунктаў у парадку сходу сталі выбары новага галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай. Прайшоў запланаваны час, з кожным днём усё бліжэй і бліжэй зімовая Алімпіяда ў амерыканскім Солт-Лейк-Сіці, на якую, хаця і не без складанасцяў, трапілі беларускія хакеісты, а працяг разгляду спраў у "партыйным" відзе спорту так і павіс у паветры. Адбыўся, праўда, трэнерскі савет федэрацыі, ён зноў зацвердзіў настаўнікамі юнацкай і маладзёжнай каманд Міхаіла Захарава ды Уладзіміра Мелянчука, якія і дагэтуль кіравалі названымі калектывамі, дапамагаючы таксама і трэнеру першай зборнай.

А вось хто зменіць на самай важнай пасадзе Анатоля Варывончыка, па-ранейшаму невядома. Зараз проста не да яго, у прыватнасці, як і да хакея ўвогуле. Так і адказаў у інтэрв'ю адной спартыўнай газеце той жа Захараў. Цытую: "А зараз такі час, што проста не да хакея".

На гэтую асабістую заяву можна было б не звяртаць вялікай увагі, мала што можа "збрэндзіць" чалавек, але ўся справа ў тым, што менавіта Захараў (дый Варывончык з Мелянчуком) гуляюць па тры разы на тыдзень у хакей, прынамсі, рабілі гэта раней, з самім прэзідэнтам беларускага НАК і, зразумелая справа, потым наведвалі саўну, таму прыведзеная цытата хутчэй за ўсё належыць не Захараву, а толькі ім агучана. Хто яго ведае!

Упэўнены, у кожнай краіне свету, хакеісты якой маюць гонар выступіць на зімовай Алімпіядзе ў лютым наступнага года, добра ведаюць, хто рыхтуе нацыянальную зборную да галоўных спаборніцтваў чатырохгоддзя. Як жа інакш! Да старту засталася палова года, зусім нічога. Трэба вызначыцца і дамовіцца з будучымі спарынг-партнёрамі, намеціць склад зборнай, распісаць час збораў, звязацца з кожным гульцом... Адным словам, спраў зашмат, хопіць з галавой, праўда, калі яна ёсць. А ў нас чамусьці няма часу вызначыцца з галоўным трэнерам. Не да яго зараз.

Як мы даведаліся з таго ж інтэрв'ю, за тры мінулыя месяцы, з моманту апошняга пасяджэння, адзнака выступлення зборнай прынцыпова змянілася і спартыўныя функцыянеры, якія ініцыіравалі пытанне аб змене трэнера, супярэчаць самі сабе. Паслухаем яшчэ раз разважанні члена выканкама, трэнера нацыянальнай зборнай Захарава, які лічыць, што "ў галоўнай камандзе краіны, па вялікім рахунку, усё ў парадку". Бачыце, вясной, дазвольце нагадаць, шаноўныя спецыялісты адназначылі супрацьлеглае, а бліжэй да восені здарылася вось такая метамарфоза...

Што замінае правесці канферэнцыю ў запланаваны тэрмін, якая "вайна" перашкаджае выконваць планы той жа федэрацыі, дзе запісаны белым па чорным дзень правядзення новага сходу, ніхто не можа растлумачыць.

Вось і прыходзіць у галаву крамольная думка, што няма часу на працяг сур'ёзнай размовы ні ў афіцыйных асоб з Мінспорту і федэрацыі, ні ў самага вялікага аматара гэтай гульні, таго, які можа рабіць усё. Як той кот Матроскін. Памятаеце: "Я яшчэ вышываць магу. Крыжыкам". У яго не хапае часу на розныя там спартыўныя "разборкі". Сваіх ды дзяржаўных спраў хапае.

Асабліва ў гэтыя дні.

Па той жа прычыне, напрыклад, ніяк не можа прайсці другая частка Алімпійскага сходу, на якім, дарэчы, трэба спешна выбіраць кіруючыя органы, без якіх, як у любой працы, не будзе толку. Час ідзе, пытанні ў тым жа алімпійскім руху ўзнікаюць штодзённа, але вырашыць іх няма каму. Дайшло нават да таго, што на апошняй сесіі Міжнароднага алімпійскага камітэта ў Маскве Беларусь прадстаўляў... прэс-аташэ рэспубліканскага НАК, па вялікім рахунку, звычайны клерк арганізацыі. А што было рабіць, калі прэзідэнт нашага НАК па нейкіх прычынах не змог наведаць Белакаменную, хоць туды ён заўсёды крылма ляціць, а паслаць намеснікаў не атрымоўвалася, бо яны не існуюць пакуль у прыродзе, таму што... не абраны. І напэўна, вельмі дзівосна было маркізу Хуану Антоніа Самаранчу, калі да яго праціснуўся невядомы прадстаўнік з Беларусі, краіны, якая, дарэчы, на ўгодкі святкавання дзесяцігоддзя са дня стварэння свайго нацыянальнага алімпійскага камітэта планавала запрасіць шаноўнага ідальга і аб гэтым раструбіла на цэлы свет. Чаму тады не атрымалася свята? Здаецца, усё залежыць, як бачым, толькі ад адной асобы. Вось толькі ўраджай ды надвор'е пакуль ёй не падуладныя. Ды курс долара. Таксама — спажывецкі кошык. Ды яшчэ напярэдадні восені — цукар. Смяротнасць, цэны на лекі. Агульнае жабрацтва... Але я неяк адхіліўся, прабачце.

Не хвалюйцеся, і сход, і канферэнцыя адбудуцца, толькі тады, калі гэта будзе выгадна. Не спартсменам, а толькі першаму з іх. Ці дзевяноста дзевятаму. Зразумела, не Уэйну Грэцкі. Пройдуць яны, напрыклад, цюцелька ў цюцельку, перад самымі выбарамі прэзідэнта краіны. За некалькі дзён. І будзе гэта новым словам у правядзенні розных шоу, папомніце. І з'явіцца на ім у белым фраку тутэйшы спартыўны "месія", і будзе вам і першае, і другое і трэцяе. Чым не выдатны піяраўскі ход?

А зараз, як той казаў, проста не да хакея. Дарогі, якія мы выбіраем... Памыляецеся, не мы!

Вось і падумалася, што гэтаму адзінаму беларускі спорт з яго праблемамі хутчэй за ўсё, як кажуць, да лямпачкі. А можа, сапраўды, цяжка чалавеку, і трэба яму адпачыць. Барані Божа. Толькі заікніся... Адразу ў апазіцыю залічаць. Да таго ж абралі яго аднагалосна, такіх аднадумцаў нават сам Кім Чэн Ір не мае. Той, які з Паўночнай Карэі ў Маскву на цягніку прыехаў.

...Жыццё тым часам працягваецца, кантора піша... Алімпійскі рух магутным крокам ідзе па краіне, хаця ніхто гэтага не бачыць, беларускія хакеісты толькі і мараць пра сваё восьмае месца, хаця і не ведаюць імя свайго новага трэнера.

Сістэма рыпіць, але паціху працуе, хаця ёю ніхто, на самай справе, і не кіруе. Быццам нейкі новы феномен "конніка без галавы".

Дзіва, людзі, дый толькі! Таму і жывем, згодна з гэткай схемай, вельмі сціпла, калі не сказаць горш.

А новага трэнера зборнай, хутчэй за ўсё, назавуць напрыканцы месяца. Пакуль існуе, і гэта не з'яўляецца сакрэтам, адна кандыдатура: Уладзімір Крыкуноў. З ім звязаны самы гучны поспех "савецкага" мінскага "Дынама" — дзесятае месца ў чэмпіянаце СССР. Зараз ён з'яўляецца настаўнікам казанскага АК "Барса", які ў мінулым сезоне стаў сярэбраным прызёрам першынства Расіі.

З вуснаў М. Захарава "выйшла", дарэчы, яшчэ адна цікавая інфармацыя. На пасаду новага прэзідэнта рэспубліканскай федэрацыі хакея (гуляць дык гуляць!) будзе прапанаваны, хутчэй за ўсё, Уладзімір Замяталін. Без каментарыяў. Хаця, дазвольце...

Спартыўная Беларусь, адзіная ў свеце, мае амаль у кожнай федэрацыі сярод кіраўнікоў, скажам так, "адыёзных" персон, большасць з якіх працуюць міністрамі ці носяць велізарныя пагоны. Адным не шанцуе — іх здымаюць з асноўнай працы, але, толькі акрамя аднаго выпадку з былым міністрам спорту і адначасова шэфам федэрацыі баскетбола спадаром Ананьевым, усе яны ледзь не пажыццёва застаюцца ў спорце. Руліць. Цікава? А вось падумаць на гэтую тэму мы прапануем вам наступным разам.

*Варывончык, Захараў, Мелянчук... У Германіі на капітанскім мосціку яны стаялі разам. Адказваць прыйшлося аднаму.*

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА.**





ЭВРИКА!

### Берегись, инфаркт миокарда!

Исследователям из Израильского технологического института и медицинского центра "Рамбам" впервые в мире удалось трансформировать эмбриональные стволовые клетки человека в клетки мышечной ткани сердца. Ученые размножили эмбриональные клетки на питательной среде и выделили из этой культуры небольшую популяцию клеток, способных к самопроизвольным сокращениям. Оказалось, что основные характеристики этих клеток практически не отличаются от характеристик молодых кардиомиоцитов — клеток сердечной мышцы. Эти результаты позволяют надеяться, что пересадка таких клеток может стать эффективным методом лечения инфарктов миокарда.

### Белье против экземы

В Техническом университете Мюнхена разработана ткань для пошива лечебного белья для больных, страдающих тяжелыми формами экземы. Изнаночная сторона нового материала покрыта тончайшим слоем серебра, которое уничтожает стафилококки, вызывающие воспаления кожного покрова.

### Помидоры из соленой почвы

Селекционеры из Канады и США сконструировали генноинженерный сорт помидоров, которые можно не только поливать водой с высоким содержанием солей, но и выращивать на сильно засоленных почвах. Солеустойчивые томаты обладают превосходными вкусовыми качествами, и их создатели полагают, что по прошествии трех лет новый сорт уже появится на рынке.

### Мороженое, которое лечит зрение

Американская фирма Arthur D. Little разработала рецептуру и технологию изготовления первого в мире мороженого, содержащего омега-3 жирные кислоты. Эти вещества, которые входят в состав рыбьих жиров, улучшают работу зрения и нервной системы и способствуют предотвращению атеросклероза. Вкус и аромат нового мороженого удовлетворили профессиональных дегустаторов.

### Россия отстает и в области Интернета

Общее число пользователей Интернета к концу прошлого года превысило 400 миллионов. Первое место здесь принадлежит Соединенным Штатам, где к услугам Интернета обращаются 59 процентов населения. В Швеции пользователи Сети составляют 56 процентов населения, в Норвегии — 53, в Исландии — 52, и в Дании — 48. В первую десятку стран входят также Нидерланды, Сингапур, Австралия, Финляндия и Канада — от 46 до 43 процентов. В Великобритании Всемирной сетью пользуются 34 процента населения, в Японии — 31, во Франции — 15, в России — 7 процентов.

### Раковые клетки в космосе

Американские ученые будут изучать злокачественные опухоли в условиях невесомости. На этой неделе впервые на космический корабль будут взяты клетки рака яичника. В отличие от обычных лабораторных условий, в которых раковые клетки растут на плоской поверхности, в космосе можно получить объемную опухоль, что даст уникальную информацию о формировании рака яичников и его лечении.



ЗДОРОВЬЕ

# Страшного диабета можно избежать

Шеннон Менг каждый день делают инсулиновые уколы. Но в отличие от других детей она не больна диабетом. Более того, она совершенно здорова. Дело в том, что эта 10-летняя калифорнийская девочка — одна их 600 добровольцев в возрасте от 3 до 45 лет, участвующих в экспериментальной программе предотвращения диабета, которая проводится Национальным институтом здоровья.

Уколы с небольшими дозами инсулина Шеннон делают перед завтраком и перед сном. "Обычно меня колют папа или мама, но теперь я и сама научилась делать уколы, — говорит Шеннон. — Это не больно, и к ним привыкаешь". Семья Менгов решила участвовать в программе Института здоровья, надеясь, что ежедневные уколы уберегут Шеннон от диабета — этой тяжелой хронической болезни, поразившей ее младшую сестру — Лору. "Конечно, это решение было нелегким. Мы долго колебались, — говорит мать Шеннон Джина Менг. — Чтобы подвергнуть своего ребенка подобному испытанию, вы должны уверовать в то, что это действительно сохранит ему здоровье".

У сестры Шеннон — Лоры — диабет диагностировали уже в возрасте двух лет. "Мы ничего тогда о диабете не знали, — говорит Джина, мать девочек. — Мы бы на все согласились, лишь бы предотвратить болезнь". Но ни предотвращать, ни вылечивать ювенильный диабет первого типа врачи пока не умеют. В отличие от взрослого диабета второго типа, в какой-то мере связанного с ожирением, диабет первого типа — это аутоиммунное заболевание, при котором организм как бы нападает на самого себя. Защитные клетки, которые должны защищать нас от микробов и других чужеродных врагов, вместо этого поражают инсулинпродуцирующие клетки поджелудочной железы. Фактически организм ошибочно принимает клетки поджелудочной железы, так называемые бета-клетки, за опасные токсины.

В результате синтез инсулина уменьшается, и организм теряет способность извлекать из пищи энергию. Глюкоза не может больше проникать в клетки, где она необходима, и вместо этого накапливается в крови, поражая внутренние органы. Врачи могут иногда определить, кто относится к группам повышенного риска, но не могут ни предотвратить такое развитие событий, ни предсказать, когда оно точно произойдет.

Вообще-то говоря, людям с диабетом первого типа вводить инсулин необходимо, но в данном случае цель исследования — попробовать небольшими инсулиновыми дозами предотвратить развитие диабета. "Трудность заключается в том, что хотя диабетикам делают один-два или даже больше инсулиновых уколов ежедневно, все равно часто не удается добиться нормальной концентрации сахара в крови, — говорит профессор-педиатр и эндокринолог из университета Южной Каролины доктор Фрэнсин Кауфман, участвующая в этом исследовании. — Сейчас мы пытаемся двумя ежедневными профилактическими уколами остановить развитие диабета, чтобы у пациента не возникало отклонений в концентрации сахара в крови, и чтобы он никогда не испытывал ни кратковременных, ни долговременных последствий болезни".

Больные диабетом подвержены развитию гипогликемии — опасному снижению концентрации глюкозы в крови и таким серьезным недугам, как сердечные болезни, поражения нервов, слепота и почечная недостаточность. Добровольцы, участвующие в исследовании, о котором идет речь, проживают в 350 различных городах США и Канады, и за ними будет вестись наблюдение в течение 6 лет. А предварительные результаты от профилактических уколов будут доложены на конференции Американской диабетической ассоциации, которая пройдет в Филадельфии. Пока никому не известно, сможет ли инсулин предотвратить болезнь.

Согласно одной из теорий, небольшие инсулиновые дозы, недостаточные для заметного снижения сахара в крови, приведут к спасительной адаптации организма, так что он перестанет путать полезный гормон с враждебным пришельцем. "Наше исследование, — говорит его руководитель, профессор-педиатр из университета в Майами Джей Скайлер, — основывается на концепции так называемой антигенно-специфической терапии. Иными словами, если вам удалось идентифицировать нужный антиген и вы начинаете вводить этот антиген, вам, возможно, удастся изменить реакцию иммунной системы с деструктивной на положительную".

Несколько исследований на животных и небольшие клинические испытания подтвердили такого рода концепцию, так, например, после такого рода исследования, проведенного на 12 детях, и опубликованного в британском Медицинском журнале "Ланцет", только один ребенок из пяти получавших инсулин, заболел диабетом, тогда как остальные семеро, которым не делали уколы, все стали диабетиками. Все 12 детей относились к группе повышенного риска, и наблюдения за ними велись в течение трех лет.

Все дети — участники теперешнего исследования — имеют близких родственников, больных диабетом. Такое родство в 10-20 раз повышает опасность заболеть этой болезнью по сравнению со средними цифрами для всего населения. Диабет первого типа может начаться когда угодно, но пик вероятности приходится на возраст от 10 до 13 лет. Поэтому участников эксперимента выбрали таким образом, чтобы 80 процентам их было меньше 20 лет. У всех этих участников периодически проверяют кровь на содержание сахара, что позволяет оценивать эффективность профилактического лечения.

Руководители исследования возлагают большие надежды на его результаты. Однако президент американской диабетической ассоциации профессор Йельского университета доктор Роберт Шервин предпочитает более осторожную формулировку. "Хотя это исследование вряд ли позволит окончательно решить проблему профилактики диабета, — говорит он, — я надеюсь, что оно станет важным шагом в правильном направлении".

**Лилия ШУКАЕВА, Радио "Свобода".**

## У Друцку пройдзе маштабны рыцарскі фестываль

З 31 жніўня па 2 верасня ў Друцку (Віцебская вобласць) пройдуць урачыстасці, прысвечаныя тысячагоддзю горада.

Як паведаміў 8 жніўня на прэс-канферэнцыі ў Мінску магістр мінскага рыцарскага клуба "Ордэн Паўночнага Храма" Дзмітрый Нясцюк, у рамках святкавання адбудзецца буйнамаштабны рыцарскі фестываль "Сівая легенда", аўтарам ідэі якога і з'яўляецца клуб. Плануецца, што ў фестывалі прымуць удзел больш за 40 рыцарскіх клубаў з Беларусі, Расіі, Польшчы, Прыбалтыкі.

Кульмінацыяй рыцарскага фестывалю стане імітацыя бітвы за Друцкі замак. Для рэканструкцыі фрагмента замка адміністрацыяй Талачынскага раёна выдзелена каля 100 кубаметраў будаўнічага лесу. Плануецца ўзвядзенне агароджы вышынёй 4 метры, замкавых варот, дзвюх вуглавых вежаў вышынёй амаль па 9 метраў.

Пабудова не будзе бутафорыяй, як на фестывалі ў Навагрудку, і не будзе разабрана пасля свята. Мясцовая адміністрацыя падтрымала ініцыятыву "Ордэна" аб аднаўленні цалкам Друцкага замка XII стагоддзя. Будаўніцтва плануецца ажыццяўляць паэтапна на працягу трох гадоў.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ ВЕРЦЕ

## Будучы тыдзень: зоркі прадказваюць

**АВЕН.** На гэтым тыдні, асабліва ў аўторак, магчыма не вельмі прыемная сітуацыя на рабоце, якая можа сапсаваць настрой. Але да канца працоўнага тыдня ў вас з'явяцца шанцы прасунуцца па службовай лесвіцы. Чацвер лепей правесці дома ў адзіноце. А на выхадныя зоркі раяць паехаць за горад з сябрамі.

**ЦЯЛЕЦ.** Ваша фінансавае становішча нечакана паправіцца. Можна падумаць аб змене спосабу заработку. Серада — дзень, вельмі спрыяльны для пакупак. На гэтым тыдні зоркі будуць правакаваць вас на рызыкоўныя ўчынкі. Не паслабляйце самакантроль. Напрыканцы тыдня спрыяльны момант, каб адкрыць свае пачуцці партнёру.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вашы планы могуць быць парушаны званком дзелавых партнёраў здалёк. Прыйдзецца ўсё кінуць і тэрмінова рыхтавацца да сустрэчы. У пятніцу вы, магчыма, сустрэнецеся са сваім будучым каханнем ці атрымаеце намёк на пачатак новага рамана. Зоркі раяць на гэтым тыдні быць больш мяккімі з хатнімі.

**РАК.** На пачатку тыдня вам пакажацца, што ўвесь свет паўстаў супраць вас. Недарэчнасці і накладкі будуць проста выводзіць з сябе. Але ў гэты ж час вас чакае поспех у наладжванні сямейных адносін, а таксама любоўных спраў сяброў. У выхадныя гульні на свежым паветры дазволяць нібыта вярнуцца ў дзяцінства і адчуць сябе шчаслівым.

**ЛЕЎ.** На гэтым тыдні лепш паберагчы свае нервы, асабліва на рабоце. Не звяртайце ўвагі на крытыку ў ваш адрас; яна, хутчэй за ўсё, неаб'ектыўная. Абавязкова вылучыце час для зносін з дзецьмі і сваякамі. Але ўстрымайцеся ад занадта бурных гульняў на свежым паветры — верагодны траўмы. У выхадныя спрыяльны момант для любоўнага спаткання.

**ДЗЕВА.** Інтуіцыя плюс актыўнасць дапамогуць вам дасягнуць высокіх вынікаў. Увогуле на гэтым тыдні вам будуць спадарожнічаць добры настрой і выдатная работаздольнасць. Але напрыканцы тыдня можа адчуцца напружанасць у сямейных справах. Пераключыцеся на адпачынак і забавы, напрыклад, ажыццявіце паездку за горад усёй сям'ёй.

**ШАЛІ.** Не варта абмяркоўваць вострыя праблемы з кіраўніцтвам, асабліва калі яно процілеглага полу. Дзеці могуць патрабаваць вашай павышанай увагі. Напрыканцы тыдня выдатны настрой і жаданне рабіць дабро дапамогуць знайсці агульную мову са старэйшымі сваякамі. Гэты перыяд вельмі спрыяльны для закаханых.

**СКАРПІЁН.** Перад вамі можа паўстаць выбар: ехаць кудысьці ці застацца і зарабляць грошы. Зоркі раяць застацца. У чацвер можа накаліцца абстаноўка ў сям'і, але ўжо ў пятніцу ўзаемаразуменне адновіцца. На выхадныя ў каханні пашанцуе тым, хто зразумее, што нельга вечна трымаць сітуацыю пад кантролем. Расслабцеся і паводзьце сябе як мага натуральней.

**СТРАЛЕЦ.** Зоркі дапамогуць у справах тым, хто здолее ўплываць на сітуацыю мяк-ка. У сераду вас чакае напружаны дзень, магчымы страты грошай. У нядзелю вас чакае дзівосны настрой, усе дзверы і сэрцы адчыняцца вам насустрач. Калі адчуеце адзіноту, пашукайце ў бліжэйшым атачэнні — магчыма, сустрэнеце таго, каго даўно чакалі.

**КАЗЯРОГ.** На пачатку тыдня трэба дарабіць незавершаныя справы, прывесці ў парадак працоўнае месца. У сераду зоркі абяцаюць не вельмі прыемны дзень, але ўжо ў чацвер ёсць шанц атрымаць грошы ці іншую ўзнагароду. Напрыканцы тыдня верагодны розныя знакі ўвагі.

**ВАДАЛЕЙ.** У сярэдзіне тыдня магчымы тэрміновыя справы, мноства перашкод, кепскі настрой. Але дапамога сяброў узніме настрой, захочацца жыць і тварыць цуды. У нядзелю ў вас усё атрымаецца. Выкарыстайце шанц для выканання запаветнага жадання. У выніку вам нават пашанцуе ў грошах.

**РЫБЫ.** Вас чакае добры настрой, вы зможаце звярнуць горы, было б толькі дзеля чаго. А вось гэтага пакуль няма. Застаецца займацца самаўдасканальваннем і ўпрыгожваннем дома. У пятніцу чакаецца прыезд сяброў ці сваякоў. У нядзелю можа адбыцца нейкая надзвычайная і добрая падзея, якая вымусіць вас па-іншаму зірнуць на сваё жыццё.



## Пятница, 10 августа

### БТ

06.30, 07.10 Доброе утро, Беларусь!
07.00, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.25 Новости.
08.05, 17.05 **"Морская полиция"**. Сериал.
09.10, 15.40 **"Маленькие Эйнштейны"**. Сериал.
09.35 Час профессионала.
10.05 Фильм **"Семья гиен"** цикла **"Семьи животных"** (Международный Французский Канал).
11.15, 22.00 **"Человек моря"**. Сериал.
12.00 "Славянский базар в Витебске-2001". Избранное.
13.15 **"Криминальный талант"**. Худ.фильм.
14.40 Док.сериал "Сокровища мировой культуры".
15.15 Мультфильм.
15.20 "Мой любимый зверь". Док.сериал.
15.30 "Все на орбиту!" Познавательный сериал.
16.10 **"Приключения швейцарской семьи Робинсонов"**. Сериал (Франция). 3-я серия.
18.25 Зона Икс.
18.35 Формула созидания. "Здоровье нации".
19.00 Худ.фильм **"Гомункулус"**.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама. Информационный канал.
22.50 Спорт-курьер.
23.00 "Встреча в Троицком" с А. Домарацким.

### ОРТ

08.00, 11.00, 17.00, 23.10 Новости.
08.15, 17.50 **"Земля любви"**. Сериал.
09.15 **"Остров страха"**. Сериал.
10.15 "Сами с усами".
10.50 "Библиомания".
15.50 "Ералаш".
16.00 **"Собачье дело"**. Сериал.
17.20 **"Русская глубина"**. 1-я серия.
18.50 "Поле чудес".
20.00 "Время".
20.40 Приключенческий фильм **"Роб Рой"**.
23.25 Боевик **"Под маской беркута"**.

### РТР

08.00, 10.00, 16.00, 19.00 "Вести".
08.15 "Два рояля".
09.00 "Моя семья".
10.30 "Фитиль".
10.45 **"Санта-Барбара"**. Сериал.
16.30 "Сам себе режиссер".
17.00 **"С новым счастьем! — 2. Поцелуй на морозе"**. Сериал.
18.00 **"Любовь.ru"**. Сериал.
19.30 "Вести-Москва".
19.50 Боевик **"Живая мишень"**.
21.40 Праздничный концерт, посвященном 65-летию Государственной инспекции безопасности дорожного движения (ГИБДД) России.
23.40 Чемпионат мира по легкой атлетике.

### КУЛЬТУРА

07.05 "Новости культуры".
07.20 "После новостей..."
07.40 Драма **"Соль земли"**.
09.10 Играет пианист Вадим Руденко.
09.35 Фильм **"Лунатик из Сен-Идесбальда. Поль Дельво"**.
10.35, 16.30 **"Вихрь цветов"**. Сериал.
11.30 "Новости культуры".
11.40 Детская комедия **"Сомбреро"**.
13.00 "Исаак Дунаевский. Музыка кино".
13.30 "Новости культуры".
13.45 "Ох, уж эти детки!" (США). Мультсериал.
14.30 "Кто мы?" из цикла "Реформы по-русски".
15.00 Новости.
15.10 **"Энн из поместья "Зеленые крыши"**. Сериал.
15.40 "МОЙ ЭРМИТАЖ".
16.05 "Сенсация! Сенсация? Сенсация..."
17.30 "Новости культуры".
17.40 Документальный фильм "Война в джунглях" из сериала "Неизвестные войны".
18.30 "Царская ложа".
19.10 "Вечерняя сказка".
19.15 "Дудочка и кувшинчик". Мультфильм.
19.30 "Новости культуры".
19.50 **"И огонь, и пламя"**. Сериал.
20.40 "После новостей..."
21.05 "Смехоностальгия".
21.30 **"Стоявшие вдоль дороги. Винсент Ван Гог"**. Художественный фильм. 4-я серия.
22.30 "Action. Новый жанр?".
23.00 "Новости культуры".

### НТВ

05.00, 06.00, 07.00 Сегодня утром.
05.15, 06.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.25, 07.20, 18.30 Криминал.
05.30, 06.35, 07.25, 14.45 Впрок.
05.40, 06.45, 07.40 Карданный вал.
05.45 Мультфильм.
07.50 Сериал **"Поющие в терновнике"**.
09.00 Сегодня.
09.25 **"Шейх Бадияр по прозвищу "Пират"**.
10.25 Путешествия натуралиста.
11.00 Сегодня.
11.25 Сериал **"Вечный зов"**.
13.00 Сегодня.
13.30 Старый телевизор.
15.00 Сегодня.
15.30 "Улица Сезам".
15.55 Сериал **"Ее звали Никита"**.
17.00 Геннадий Хазанов. "Жил-был я..."
18.00 Сегодня.
18.50 Комедия **"Ас из асов"**.
21.00 Сегодня.
21.50 "Женский взгляд".
22.30 Фильм ужасов **"Дом-4"**.

### TV-6

05.00, 06.00 День за днем.
05.45 Дорожный патруль.
08.00 Новости.
08.25 Фильм **"Новая Москва"**.
10.00 Сериал **"Шпионские игры"**.
11.10 Сериал **"Следствие ведут знатоки"**.
12.50 Сериал **"Последний Дон"**.
14.00 "Сегодня".
14.30 "Я знаю все!".
16.55 Сериал **"Архив Шерлока Холмса"**.
18.00 "Сегодня".
18.35 Сериал **"Агент национальной безопасности-II"**.
19.45 Дорожный патруль.
20.00 "Сегодня".
20.45 Сериал **"Последний Дон"**.
22.00 "Сегодня".
22.40 Дорожный патруль.
22.55 Боевик **"Отряд спасения"**.
00.40 Дорожный патруль.

### СТВ+RenTV

06.00, 17.00 "Симба-футболист". Мультсериал.
06.30, 16.30 "Кот по имени Ик". Мультсериал.
07.00 "Симпсоны". Мультсериал.
07.30 "Музыка на СТВ".
07.45 "Случайный свидетель".
08.05 "Свет и тень".
08.30 Новости СНГ.
08.45 Триллер **"Прикосновение"**.
10.35, 17.45 "Виртуальный мир".
10.45 "Дискавери" на СТВ.
11.05 Триллер **"Стеклянный ключ"**.
12.55 "1/52".
13.20 "Киноафиша Минска".
13.30, 17.30 Новости СТВ.
13.45 **"Пляж"**. Сериал.
14.45 **"Убойная сила"**. Сериал.
16.00 "Дьяволик". Мультсериал.
18.00 "Настоящие охотники за привидениями". Док.фильм.
19.00 "Случайный свидетель".
19.30 Новости "СТВ-24 часа".
19.45 Минск на перекрестке столетий.
20.00 **"Мэш"**. Сериал.
20.30 Программа "Тема дня".
20.45 "Вечарніца".
21.00 Боевик **"Экспресс миллионеров"**.
23.05 Новости СНГ.
23.20 Триллер **"Стеклянный ключ"**.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@irex.minsk.by**
**http://nv.promedia.minsk.by**
**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП "Мэджык". Адрас: г. Мінск, вул. Кнорына, 50. Падпісаны ў друк у 15.00. Фармат А-2. Тыраж: 42570 экз., Заказ № 635.